ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 6 (1761) ГОД XXXV БЕЛАСТОК 11 ЛЮТАГА 1990 г. ЦАНА 600 зл.

## НА БЕЛАСТОК НАЕХАЛІ КАЛЯДНІКІ

20 і 21 студзеня Беласток перажыў наезд каляднікаў. Каляровыя групы ў народным адзенні, часта з традыцыйнымі „козамі", „чэрцямі", „смерцямі", „ірodaмі" запоўнілі цэнтральныя вуліцы горада.

У аколіцах Рынка Касцюшкі, вуліц Сянкевіча, Ліповай, Дзяржынскага, Кюры-Складоўскай калядавалі калектывы з беларускіх вёсак — часта ў беларускім нацыянальным адзенні, з традыцыйнымі ў нас і вельмі прыгожымі звёздамі. Цудоўны, зладжаны шматгалосы спеў знаёмых многім з дзяцінства свойскіх калядак залунаў над прыбітым штодзённымі клопатамі горадам. І мякчэлі счарствелыя сэрцы. Пачалі ўсміхацца сус-

(Працяг на стар. 6)



З шопкай і „казою" калядавалі дзеці са школы ў Гуранах на Сакольшчыне.

## ЯЗЭП ПІЛСУДСКІ Ў МЕНСКУ

(ПАВОДЛЕ БЕЛАРУСКАЙ ГАЗЕТЫ „ЗВОН")

Сёлета мінае 71 год з таго часу, калі ўзброеныя фармацыі рэгулярнага войска польскага 17 лютага 1919 г. перайшлі граніцу ўзнікшай 1 студзеня 1919 г. Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Чым была гэтая вайна для беларусаў найлепш сведчаць фрагменты ўспамінаў невядомага аўтара А. А–ка пра Алеся Гаруна: „Пад навалай бальшавікоў польскае войска ўздрыгнулася, пачало паддавацца. Гарэлі вёскі і мястэчкі. Гэта палякі „каралі" беларускіх сялян. Пачаліся расстрэлы, пачаўся здзек. Агнём, крывёй і слязьмі беларускага селяніна генерал Шэптыцкі хацеў стрымаць наступленне бальшавікоў...".

Але пакуль пачалося контрнаступленне Чырвонай Арміі, захопленая Язэпам Пілсудскім Беларусь стала арэнай палітычных розыгрышаў. Прымалі ў іх такі ці іншы ўдзел і беларусы, прымушаныя гістарычнымі абставінамі і не заўсёды правільнай па нацыянальных адносінах палітыкай маладой яшчэ тады і таму малавопытнай савецкай улады, у якой паявіліся таксама і крайнія нігілістычныя тэндэнцыі да беларускага пытання. Усё гэта не магло не расчароўваць тых нацыянальных беларускіх дзеячаў, якія сацыяльнае разняволенне Беларусі бачылі таксама разам з цалкавітым нацыянальным вызваленнем. Быў сярод іх і Янка Купала, быў і Алесь Гарун — стары рэвалюцыянер — эсэр-марксіст, пра-вёўшы 10 гадоў катаргі ў Іркуцкай губерні за выступленні супраць царскага самадзяржаўя. Таму маніфест Пілсудскага ад 22 красавіка 1919 г. да насельніцтва былога Вялікага княства Беларуска-Літоўскага, у якім гаварылася: „Як роўны з роўным, як вольны з вольным... Ідзем вызваляць вас з-пад чужацкага ярма, каб Вы самі пастанавілі аб сваёй дзяржаўнай прыналежнасці", — як піша невядомы А. А–к, — не мог не „акрыліць надзеямі" гэтых дзеячаў, „паддаць" ім „энергіі і веры". Немалаважную ролю ў паланафіль-скай арыентацыі іграла і тая акалічнасць, што шматлікім беларускім дзеячам было вядома беларускае паходжанне Пілсудскага, які раней нават распаўсюджваў беларускія зборнікі Францішка Багушэвіча, быў блізкім сябрам вядомага беларускага паэта Зыгмунта Нагродскага (1866—1937), які, так, як і Пілсудскі, быў родам з Зулова. Звесткі пра беларускае паходжанне Пілсудскага знаходзім у розных выданнях даваеннага часу, між іншым, у кнізе, зложанай І. Г. Антонавым, выдадзенай у 1921 г. „Успаміны аб польскай акупацыі Гродзеншчыны ў 1919—1921 г.г. Малюнкі гвалту і здзеку фацэтных польскіх паноў на Беларусі (Мае перажыванні)", стар. 83. У выдадзенай у даваеннай Польшчы на беларускай мове кнізе, апрацаванай доктарам Уладзіславам Арцімовічам, „Маршалак Язэп Пілсудскі ў Вільні і на Віленшчыне" знаходзім раздзел „Родныя старонкі Маршалка Пілсудскага" (Вільня, 1934, сс. 88—95), які давoлі каларытна малюе асяроддзе, у якім узрастаў „таемны ліцьвін": „Навокал жывуць палякі і беларусы. Толькі ўжо далей, едучы на поўнач і ўсход, спатыкаем ліцьвіноў (ліцьвінамі называлі і называюць дагэтуль беларусаў і літоўцаў. — Ю. Т.). У мястэчках жывуць пераважна палякі ды жыды. Што датычыцца вёсак, дык Зулаў ляжыць на граніцы вёсак з беларускаю і польскай моваю. У Свянцянскім павеце ёсць абшар, які з'яўляецца быццам нейкім этнаграфічна польскім востравам сярод беларускага і літоўскага насельніцтва. Востраў гэты абыймае ўвесь Каркажыскі, часткаю Кемельскі і Саракоўскі прыходы. У межах гэтага вострава, на самым яго рубяжы, ляжыць Зулаў" (стар. 93).

У раздзеле „Дзіцячыя і школьныя гады Язэпа Пілсудскага" так напісана пра продкаў „ліцьвіна" з Зулова: „Паходзіў Язэп Пілсудскі з даўняй і добра ў гістарычных хроніках прадстаўленай сям'і Гінятовічаў, з каторых адзін, як адзначана ў Літоўскіх Канстытуцыях 1499 году, даў свайму сыну, поруч хростнага імя Станіслава, старалітоўскае імя „Пілсуда" і — такім чынам — распачаў род Пілсудскіх" (стар. 9).

Паказваючы гістарычны фон палітычных розыгрышаў паміж беларусамі і палякамі, нельга не мець на ўвазе і той акалічнасці, што беларусы любой цаной хацелі выкарыстаць палітычную кан'юнктуру дзеля фармулёўкі максімальных нацыянальных пастулатаў аж да цалкавітага нацыянальнага вызвалення і самастойнай дзяржаўнасці ў межах абвешчанай 25 сакавіка 1918 г. Беларускай Народнай Рэспублікі. Палітычная наіўнасць такога падыходу заключалася ў тым, што ў той час практычна ніхто амаль нікому дзяржаўнасці не даваў. Народы ж, якія дабіваліся дзяржаўнай незалежнасці, самі знявольвалі нашмат слабейшых і менш развітых у даны момант, хоць неаднойчы з багацей культурай. У гэтым ліку была і Беларусь. А тым часам праходзіла палітычная гульня.

(Працяг на стар. 3)

## НА МЯЖЫ

# ПАМЫЙНІКІ

Вытварылася нечакана сярод беларусаў у Польшчы катэгорыя людзей, якіх, з увагі на іх дзейнасць, можна назваць памыйнікамі. Тэрмін такі поўнасцю адпавядае той ролі, якую выконваюць яны з вялікай заўзятасцю і, мабыць, прыемнасцю. Людзі гэтыя не ахвярнічаюць, не трацяць часу на беларускую дзейнасць, не даюць грошай на беларускі музей, але заўзята і паслядоўна пішуць лісты на Захад, а часам нават на Усход, у якіх паліваюць граззю тых, хто заангажаваўся шчыра і аддана ў беларускі рух у Польшчы. У сувязі з тым, што сталіся яны выдатнымі спецыялістамі ад памыяў, якія выліваюць на галовы тых, хто ім не падабаецца, адзінай уласцівай для іх назвай з'яўляецца тэрмін „памыйнікі". Што ж памыйнікі пішуць у сваіх лістах? А перш за ўсё тое, што большасць дзеячаў БГКТ — гэта заўзятыя дзікія сталіністы і камуністы, якія толькі і марадь аб тым, каб Беларусь ніколі не карысталася ніякімі формамі незалежнасці і была вечнай служанкай Масквы. Пішуць аб тым, што дзеячы БГКТ — гэта платныя агенты польскай бяспекі, што гэтыя дзеячы аб нічым іншым не думаюць, толькі аб тым, каб БГКТ было верным халуем ПАРП. Пішуць і аб тым, што БГКТ змагаецца з рэлігіяй і духавенствам. Пішуць аб тым, што БГКТ напружвае ўсе сілы, каб пашкодзіць беларускай эміграцыі на Захадзе. Пішуць аб тым, што Баршчэўскі вылазіць са шкуры, каб перашкодзіць узнікненню Беларускага грамадскага камітэта „Грамады". Пішуць і аб тым, што Баршчэўскі і яму падобныя робяць усё, каб пашкодзіць маладым беларусам у Польшчы, бо хацеў бы іх падпарадкаваць і зняволіць. Пішуць аб тым, што БГКТ хоча пераўтварыць Беларускі музей у музей камуністычнага руху.

Калі не хапае ім вялікіх спраў і ідэй, не пагарджаюць і малой паганай плёткай. Для прыкладу скажу, што я ўжо атрымаў некалькі лістоў ад Ю. Попкі з Заходняй Германіі. Пан Попка рэзка абвінавачвае мяне ў тым, што я нястомна паланізую беларусаў у Польшчы, мала гэтага, даказвае, што разам з кампаньёнамі забраў з Музея старадаўні невад, налавіў ім рыбы. Пасля пачаў піць водку і жэрці рыбу, а калі не хапіла грошай на водку, прадаў невад, а грошы прапіў. Пан Попка ставіць рашучае патрабаванне. Піша, што калі я не звярну ў Музей такі ж, які быў, стары невад, дык ён апіша інцыдэнт з невадам на ўвесь свет. Паважаны і бедны пане Попка! Я ведаю, што Вам да канца жыцця не прыйшла б у галаву дурная гісторыя з невадам, калі б яе не прыдумаў і Вам не ўбіў у бедную галаву адзін з нашых памыйнікаў. Прагну Вас паінфармаваць, што я шукаю ўжо некалькі гадоў сець, невад, жак і кломлю, сачок для Беларускага музея, аднак не таму, што Вы наеліся прыпаднесенай Вам памыйнікам бруднай плёткі. Дарэчы, чалавек, які Вам расказаў гэтую хлусню, дагэтуль не ўнёс у фонд пабудовы Музея нават найменшай сумы грошай. Ён заслеплены нянавісцю, прагнуў бы, каб Музей ніколі не ўзнік, бо гэта ў яго разуменні кампраметавала б тых, хто Музей будуе. Асноўнай рысай памыйнікаў з'яўляецца баязлівасць. Яны не выступаюць у нас публічна, не пішуць у „Ніву", дый навошта, лепш укусіць спадцішка.

Зразумела, што не трэба пераацэньваць ролю памыйнікаў у нашай гісторыі. Трэба ахвярнічаць і працаваць і не звяртаць увагі на дзейнасць гэтых мізэрных істот. Зрэшты, рэакцыя эмігрантаў, а таксама беларусаў з БССР адназначная. Гэта ж разумныя людзі. Яны без цяжкасці адчытваюць сапраўдныя інтэнцыі памыйнікаў. Зразумела, што на кароткі час могуць яны ўвесці таго-сяго ў зман, але толькі на кароткі.

А мы, дзеячы БГКТ, незалежна ад сваіх палітычных поглядаў, упадабанняў ці прыналежнасці, павінны, не звяртаючы ўвагі на памыйнікаў, працягваць якую ж цяжкую, але і радасную беларускую справу. А памыйнікі аб'ектыўна служаць не гэтай справе, а толькі ворагам беларушчыны, якія ахвотна будуць карыстацца іх хлуснёй, хаця самі ў яе не будуць верыць.

**Алесь Барскі**

---

# НОВЫ ПРАЕКТ

**У 44 нумары „Нівы" ад 29 кастрычніка 1989 года надрукавалі мы праект пастановы аб нацыянальных меншасцях. Аказалася, што гэты праект з-за сваёй недасканаласці быў адкінуты і Сеймам разглядацца не будзе. Зараз ідзе работа над падрыхтоўкай больш адпаведнага праекта. Друкуем новы праект пастановы, апрацаваны Камісіяй нацыянальных меншасцяў Грамадзянскага камітэта пры Леху Валэнсу. Заўвагі да праекта пастановы просім дасылаць у нашу рэдакцыю.**

**USTAWA**

z dnia ...............

o prawach mniejszości narodowych i etnicznych.

Sejm Rzeczypospolitej Polskiej:

— wykonując postanowienia Konstytucji Rzeczypospolitej Polskiej,

— nawiązując do godnej szacunku i kontynuacji tradycji tolerancyjnego współżycia i współpracy w tworzeniu wspólnego bytu w Państwie Polskim osób o zróżnicowanym pochodzeniu narodowym i etnicznym,

— uznając historyczny wkład osób należących do mniejszości narodowych i etnicznych w rozwój państwowości i kultury,

— kierując się zasadami zawartymi w Powszechnej Deklaracji Praw Człowieka, Międzynarodowym Pakcie Praw Obywatelskich i Politycznych, Akcie Końcowym Konferencji Bezpieczeństwa i Współpracy w Europie,

— umacniając warunki do czynnego i równoprawnego uczestnictwa obywateli w życiu publicznym i społecznym, bez względu na pochodzenie narodowe lub etniczne, stanowi co następuje:

**Rozdział I**

**Postanowienia ogólne**

Artykuł 1

1. Wszyscy są równi bez względu na narodowość, pochodzenie etniczne, rasę, kolor skóry, język i wyznanie.

2. Mniejszościom narodowym i etnicznym (dalej zwanym mniejszościami) gwarantuje się prawa specjalne, które zapewniać mają możliwość zachowania przez mniejszość jej odrębności w stosunku do większości oraz osiągnięcie faktycznej z większością równości warunków życia i rozwoju.

Artykuł 2

Mniejszością w znaczeniu tej ustawy jest grupa obywateli polskich, stanowiąca liczebnie mniejszość społeczeństwa, znajdująca się w niedominującej sytuacji w państwie, różniąca się od większości cechami narodowościowymi, językowymi lub kulturowymi, posiadająca poczucie solidarności grupowej, motywowane wspólną wolą przetrwania i zachowania swojej odrębności.

Artykuł 3

1. Każdy może swobodnie manifestować swoją przynależność do mniejszości narodowej lub etnicznej, a także wyznawać właściwą jej religię oraz rozwijać kulturę, obyczaje i tradycje.

2. Nie wolno nikomu narzucać ani zakazywać przynależności do określonej mniejszości narodowej lub etnicznej.

Artykuł 4

Korzystanie z praw specjalnych nie stanowi podstawy do zwolnienia z wykonywania obowiązków obywatelskich.

**Rozdział II**

**Prawa mniejszości oraz osób do nich należących**

Artykuł 5

1. Mniejszościom gwarantuje się prawo używania własnego języka.

2. Na terenach zamieszkałych przez mniejszości zwarte osoby do nich należące mają prawo do używania własnego języka w stosunkach z organami państwowymi. Na innych terenach prawo to dotyczy postępowania przed sądami.

*ewentualnie:*

2. Na terenach zamieszkałych przez mniejszości zwarte osoby do nich należące mają prawo używania własnego języka w postępowaniu sądowym i w stosunkach z innymi organami państwowymi.

3. Rzeczpospolita Polska stwarza warunki udziału przedstawicieli mniejszości w życiu publicznym, w szczególności poprzez zapewnienie im udziału w organach ustawodawczych i samorządowych, w oparciu o odpowiednie rozwiązania prawne przyjęte w ordynacji wyborczej.

Artykuł 6

1. Na terenach zamieszkałych przez mniejszości zwarte, Państwo zapewnia w ramach szkolnictwa publicznego, w zależności od potrzeb, szkoły lub klasy z językiem macierzystym mniejszości na wszystkich szczeblach nauczania.

2. Mniejszości mają prawo zakładania prywatnych szkół i innych placówek oświatowych ze swoim językiem macierzystym.

3. Nauka języka polskiego i historii Polski odbywa się w szkołach i klasach wymienionych w ust. 1 i 2 w języku polskim.

4. Oświata i wychowanie powinny zmierzać do upowszechniania ideałów tolerancji i wzajemnego szacunku dla odrębności narodowych.

Artykuł 7

1. Mniejszości mają prawo do rozwoju i pielęgnowania swojej kultury. W szczególności mają one prawo do tworzenia instytucji kulturalnych (biblioteki, muzea itp.), naukowych oraz charytatywnych.

2. Mniejszości mogą swobodnie wydawać prasę oraz inne publikacje w języku macierzystym.

3. Państwowe środki masowego przekazu zapewniają stosowny czas antenowy lub miejsce stowarzyszeniom mniejszościowym, o których mowa w art. 9, w celu prezentowania i dyskutowania problemów społeczno-politycznych i kulturowych mniejszości.

Artykuł 8

1. Mniejszościom narodowym i etnicznym gwarantuje się prawo obchodzenia ich świąt religijnych w ramach przepisów powszechnie obowiązujących.

2. Obowiązujące członków mniejszości nakazy i zakazy religijne są brane pod uwagę przy kierowaniu poborowych do służby zastępczej na zasadach określonych w przepisach o obronności Państwa.

Artykuł 9

1. Osoby należące do mniejszości mają prawo zrzeszania się w samorządowych i autonomicznych stowarzyszeniach mniejszościowych.

2.. Rada Ministrów określi w drodze rozporządzenia zakres i sposób pomocy finansowej dla stowarzyszeń mniejszościowych.

Artykuł 10

Stowarzyszenia mniejszościowe działają na rzecz:

— krzewienia, popularyzacji i rozwoju oświaty, kultury, sztuki, języka właściwych ich członkom,

— zapewnienia zgodnego współżycia mniejszości z innymi obywatelami państwa.

Artykuł 11

1. Mniejszości mają prawo występowania do władz i instytucji państwowych z postulatami dotyczącymi ich potrzeb społecznych i kulturowych.

2. Stowarzyszenia mniejszościowe mają kompetencje organizacji społecznych, o których jako o stronie postępowania traktują przepisy o postępowaniu sądowym i administracyjnym. Mogą one w zakresie i formach przewidzianych tymi przepisami występować przed organami wymiaru sprawiedliwości i organami administracyjnymi w imieniu osób należących do danej mniejszości.

**Rozdział III**

**Postanowienia końcowe**

Artykuł 12

1. Kontrolę przestrzegania postanowień niniejszej ustawy sprawują sądy powszechne i Trybunał Konstytucyjny, w trybie i na zasadach określonych odrębnymi przepisami.

2. Niezależnie od trybu przewidzianego w ustępie 1, w przypadku naruszenia przez władze lub instytucje Rzeczypospolitej Polskiej praw zagwarantowanych niniejszą ustawą, stowarzyszenia mniejszościowe uprawnione są do występowania ze skargami na rzecz lub w imieniu członków mniejszości do Trybunału Praw Człowieka, którego rozstrzygnięcia i zalecenia uznane będą za wiążące.

Artykuł 13

Ustawa wchodzi w życie z dniem ............... 1990 roku.

**Prezydent**
**Rzeczypospolitej Polskiej**

# Галасую за Беларусь

### ВЫБАРЧАЯ ПЛАТФОРМА БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ ЗА ПЕРАБУДОВУ „АДРАДЖЭННЕ“

4 сакавіка на Беларусі адбудуцца выбары ў мясцовыя саветы і ў Вярхоўны Савет БССР. Зараз у Рэспубліцы ідзе перадвыбарчая кампанія. Сваю выбарчую платформу распрацаваў і БНФ. Агляд яе зместу прапануем нашым чытачам.

Платформа пачынаецца агульнай характарыстыкай эканамічнага, экалагічнага і палітычнага становішча ў Рэспубліцы. *Наша зямля забруджана радыёнуклідамі і нітратамі, паветра атручвае выкідамі прамысловых прадпрыемстваў, а вада — сцёкамі з хворых палёў і жывёлагадоўчых фермаў. Ніякія намаганні не даюць плёну. Наша сістэма прамысловасці не можа наладзіць выпуску тавараў, якія знаходзіліся б на ўзроўні міжнародных патрабаванняў. І што б ні радзіла наша зямля, на прылаўках магазінаў бракуе дастатковай колькасці прадуктаў.* Рэспубліка знаходзіцца ў стане залежнасці ад цэнтра. Стан гэты аўтары платформы акрэсліваюць „паўкалоніяй“. Далей сцвярджаюць: *Мы не перажывем яшчэ пяць гадоў такога парадку і такога кіраўніцтва. Пасля Чарнобыля духоўнага, што разбурыў нашу культуру ў часы сталіншчыны, пасля Чарнобыля радыяцыйнага, які паставіў кропку ў гісторыі развітага сацыялізму, над нашым народам навісла пагроза страшэннай катастрофы: развалу народнай гаспадаркі, выбуху злачынстваў, голаду і пакутаў.*

**БНФ прыступае да выбараў з ідэямі палітычнага і эканамічнага плюралізму, культурнага адраджэння, з ідэямі дэмакратыі, свабоды і суверэнітэту Беларусі. Рэальны суверэнітэт Беларусі — гэта найважнейшая палітычная мэта, якая стаіць перад грамадствам. Дзеля гэтага трэба юрыдычна сцвердзіць вяршынства законаў Беларусі на яе тэрыторыі над саюзнымі законамі. Трэба таксама юрыдычна замацаваць уласнасць беларускага народа на сваю зямлю і на ўсе прыродныя рэсурсы рэспублікі.** Беларусь павінна перайсці на поўную гаспадарча-эканамічную самастойнасць. У рэспубліцы павінен стварыцца вольны рынак, яе эканамічная структура павінна інтэгравацца ў еўрапейскую і сусветную эканамічную структуру.

БНФ бачыць неабходнасць прыняць закон пра ўласнасць і прызнаць існаванне раўнапраўнасці розных формаў уласнасці — калектыўнай, прыватнай, кааператыўнай і іншых.

Неабходна таксама прыняць закон пра зямлю, паводле якога можна было б калгасы і саўгасы пераўтвараць у кааператыўныя гаспадаркі або выходзіць з іх з зямлёю без усялякага выкупу. Зямельныя адносіны павінны рэгулявацца эканамічнымі метадамі.

Дзеля ўсталявання сацыяльнай справядлівасці БНФ выступае за скасаванне сістэмы прывілеяў, якія прыслугоўваюць партыйна-бюракратычнай наменклатуры. Спецыяльныя медыцынскія, санаторна-курортныя і бытавыя ўстановы павінны быць перададзены ў карыстанне дзецям і пацярпелым ад чарнобыльскай катастрофы.

З увагі на пастаянны недахоп тавараў першай патрэбы на Беларусі БНФ бачыць неабходнасць на перыяд палітычна-эканамічнай рэформы даць сацыяльныя гарантыі найменш забяспечаным слаям грамадства: забяспечыць права маці на трохгадовы аплочаны адпачынак для догляду дзіцяці, стварыць сістэму прафілактыкі і рэабілітацыі насельніцтва рэспублікі ад уздзеяння радыяцыі, забяспечыць мінімальны пражыццёвы ўзровень малааплочваным катэгорыям насельніцтва, пенсіянерам, інвалідам і іншым.

Выратаванне насельніцтва рэспублікі ад наступстваў чарнобыльскай трагедыі БНФ лічыць агульнанацыянальнай задачай. *БНФ выступае за неадкладнае адсяленне жыхароў забруджаных раёнаў і прыняцце законаў пра сацыяльныя правы людзей, пацярпелых ад чарнобыльскай катастрофы. БНФ адмаўляе ненавуковую антычалавечую канцэпцыю — 35 бэраў за жыццё і падтрымлівае канцэпцыю беларускіх вучоных, згодна з якой людзям нельга жыць там, дзе немагчыма атрымаць чыстую сельскагаспадарчую і іншую прадукцыю.*

Утойванне інфармацыі ад народу пра радыяцыйную небяспеку БНФ расцэньвае як злачынства супроць чалавецтва і патрабуе прыцягнуць да крымінальнай адказнасці кіраўнічых асобаў, вінаватых у засакрэчанні і свядомым скажэнні інфармацыі. БНФ патрабуе ад урада

(Працяг на стар. 5)

# ЯЗЭП ПІЛСУДСКІ Ў МЕНСКУ

(Працяг са стар. 1)

У спрэчных абставінах аказаўся і сам нацыянальны прарок Янка Купала, які пасля адступлення Чырвонай Арміі прымушаны быў заняць акрэсленую пазіцыю ў адносінах да новых пілсудчыкоўскіх уладаў. Кіруючыся місіяй прарока, працягваў ён, хоць і ў іншай форме, чымсьці дагэтуль, бескампрамісную барацьбу за цалкавітае сацыяльнае і нацыянальнае разняволенне Беларусі. Зразумела, што ў такіх ды яшчэ ваенных абставінах рэдагаваная ім ад 25 жніўня 1919 г. у Менску газета „Звон“ не магла прыняць пэўнага „антыбальшавіцкага“ „колеру“. Наколькі прадыктаванае гэта было палітычнымі абставінамі, а наколькі поглядамі самога Купалы, пытанне гэтае трэба было б вывучыць больш дэталёва.

З творчасці паэта дакладна ведаем, што ставіўся ён вельмі крытычна да нацыянальнага нігілізму і касмапалітызму ў сваім славутым вершы „О так! Я — пралетар!..“:

„...О так! Я — пралетар!..
Яшчэ учора раб пакутны —
Сягоння я зямлі ўладар
І над царамі цар магутны!
Мне бацькаўшчынай цэлы
свет,
Ад родных ніў я адвярнуўся...
Адно... не збыў яшчэ ўсіх бед:
Мне сняцца сны аб Беларусі!“
1924 г.

Сарказм гэты несумненна адносіўся да пачаткова цалкам амаль нігілістычнага падыходу савецкай улады да беларускага пытання, як-ніяк у беларускай дзяржаве — Беларускай ССР. Былі, магчыма, сярод беларускіх дзеячаў і такія, а сярод іх і Алесь Гарун, якія ў эмацыянальным парыве паверылі ў прыгожыя, „падсалоджаныя“ словы Пілсудскага: „Як роўны з роўным, як вольны з вольным...“.

У маніфесце Маршалак гаварыў прыгожа, як і не трэба лепш: „Стан безупыннай нявол і, які я, радзіўшыся на гэтай нешчаслівай зямельцы, добра ведаю, павінен нарэшце быць знішчожаны і ўжо раз у гэтай, быццам праз Бога забытай старонцы, павінна запанаваць свабода і права вольнай нічым не звязанай гутаркі аб сваіх патрэбах. (...) Хачу вам даць магчымасць развязаць унутраныя нацыянальныя і рэлігійныя справы гэтак, як самі таго захочаце без ніякага гвалту або націску з боку Польшчы“.

*(Заканчэнне будзе)*

**Юрка Трачук**

Звон.

Беларуская штодзенная палітычна-літаратурная часопісь

Адрес рэдакцыі і адміністрацыі м. Мінск, Юбілейны дом.

Цана нумару 1 марка.

Год выданьня I.

Цана абвестак:

№ 1. Менск, Панядзелак 25 жніўня 1919 г. № 1.

*Віньетка першага нумара купалаўскай газеты „Звон“, выдаванай у 1919 г. у Мінску.*




### ДА ПЕРШАГА АФІЦЫЙНАГА МІТЫНГУ БНФ

Планета страху! Планета болю!
Хачу смяяцца, а не плакаць!
Над лесам ціхім, над мірным
полем
Не чую птушак вольных
радасць...

О, нервы, нервы!.. Цярпіце
вусны,
Я вас не хочучы кусаю,
Мне вельмі страшна: кругом
распусны
Народ аслепла памірае.

Грабе старанна і падграбае
Ўсё, што трэба і не трэба,
Зямлю гвалтоўна ён раскрадае
І дабіраецца да неба.

І ўсё-ткі веру: святыя душы —
Яны яшчэ не паўміралі —
Цябе, Зямелька, — не! —
не задушаць,
Цябе, Айчына, не падпаляць!

Яны адкрыюць аслеплым вочы,
Яны сумленне нам адродзяць,
І зразумеем: а нас жа
топчуць,
За нос нас сталіністы водзяць!

*19—20 лютага 1989 г.*

**Янусь Малец**

### НАД ТУНДРАЙ

Над тундрай вятрыскі
скавычуць,
дзе вечная мрэ мерзлата.
Нібыта чарцей яны клічуць,
што з зброяй заселі ў дратах;

Што дзённа і ночна вартуюць
галодны, зняволены люд,
сумленне і праўду дратуюць
наборам рэжымных пакут.

...Бы мёртвая, зона за дротам.
Шахцёры даўно пад замком,
умыўшыся стомай і потам,
жыццё праклінаюць тайком.

А ў тундры вятрыскі
скавычуць
і вечная мрэ мерзлата.
Ахвяры нявінныя лічаць
магільнік людскі —
Варкута.

*Варкута, 1955 г.*

**Васіль Супрун**

— ✳ —

Упэўнен я:
былі такія людзі
На самым краі курапатскіх ям,
Што кулаком сябе не білі
ў грудзі,
Хоць,
безумоўна,
верылі сваім вачам...,
І што ва ўласным сэрцы без
пагарды,
Наадварот,
з шчымлівым болем
за чужы спакус
Глядзелі ў вочы
розным катам-гадам
І іх канторам
тыпу НКУС.
Упэўнен я:
былі і ёсць такія людзі...,
З якімі Бог
заўжды,
вядома,
будзе.

**Яўген Гучок**

„Ніва“
11.II.1990 г.




## ЧАРГОВЫ ПАДАРУНАК СВЕТУ

Я ўжо зрабіў столькі вынаходстваў на карысць чалавецтва, што і сам іх усіх не памятаю. Але адно хачу чытачам прыпомніць, бо сённяшняя моладзь гатова не паверыць у маю вынаходлівасць, а старыя, хоць і карыстаюцца маімі вынаходствамі, не кваляцца пахваліць мяне за гэта. Скажу пра справу, якая аказалася вельмі карыснай для лысых. У выніку майго адкрыцця лысеючыя перасталі лысець, а ў тых, хто ўжо паспеў вылысець, пачалі адрастаць густыя чупрыны, прыгажэйшыя, чым раней.

Сённяшняе маё вынаходства нікому не павінна быць абыякавым, бо яно датычыць кожнага чалавека, нягледзячы на стан, пол, арганізацыйную і рэлігійную прыналежнасць, адукаванасць і неадукаванасць, колер скуры ці ўзрост. Чым хачу пахваліцца? А тым, што я сваім пачуццём абавязковасці перад чалавецтвам, сваёй упартасцю ў імкненні служыць грамадству, не запрапаную ніякіх матэрыяльных вынаходстваў, а толькі хачу падарыць свету ідэю, якая назаўсёды пакончыць з войнамі. А калі нават і не, то кожная чарговая вайна будзе не страшнейшай, чым самая благая вайна ў гісторыі нашай планеты.

Паспрабуйце падумаць так, як я. Дагэтуль на вайну, якую заўсёды выклікалі старэйшыя з-за сваіх эгаістычных матываў, прэстыжнасці і агрэсіўнасці, пасылалі зусім маладых людзей. так патрэбных у гаспадарцы, якія не паспелі яшчэ нацешыцца жыццём, залажыць сям'ю. Адным словам, выкарыстоўвалі маладых, здаровых людзей, якія сваю сілу трацілі на забіванне іншых людзей, на паленне і разбурэнне чужых вёсак і гарадоў. Руйнавалі жыццё сабе і іншым. Пакідалі свае вёскі і гарады, да якіх часта не вярталіся, пакідалі ў няшчасці сваіх бацькоў. А я прапаную вось такую ідэю: ва ўсіх канстытуцыях свету трэба адпаведна змяніць той артыкул, які гаворыць, што кожны грамадзянін абавязаны служыць у арміі. Зараз мабілізацыі падлягаюць людзі ва ўзросце ад васемнаццаці да шасцідзесяці пяці гадоў. А гэта значыць, што асноўная маса маладых хлопцаў, а нярэдка і дзяўчат, могуць загінуць на вайне. Беручы пад увагу грамадскую прыдатнасць маладога і старога чалавека, прапаную ў час вайны пасылаць на фронт мужчын ва ўзросце звыш шасцідзесяціпяці гадоў. Нават да ста, калі будуць магчы хадзіць.

Якія карысці выцякаюць з маёй ідэі? А вось такія: маладыя, якім хочацца жыць і тварыць, застануцца прадаўжаць жыццё. А старыя не будуць выдумваць войнаў, бо ім на іх не захочацца ісці, а калі прыдумаюць, то самі пойдуць біцца і тады:

— не пакінуць няшчасных бацькоў (бо рэдка хто іх будзе мець, а калі і так, то ўжо такіх старых, што не будуць ведаць, у чым справа),

(Працяг на стар. 7)



Сабор Св. Мікалая ў Беластоку.
Мал.: У. Петрука.

## Свойскія малюнкі

# Гмінныя навіны

### ХТО МЫ?

У панядзелак, 15 студзеня, Падбельскую царкву наведаў мужчынскі царкоўны хор пад кіраўніцтвам а. Нігярэвіча.

Хор праспяваў некалькі калядак на стараславянскай мове. Праграма — на літаратурнай рускай мове. Аб'ява на царкоўных дзвярах — на польскай. Прыход у Падбеллі складаецца выключна з беларускага насельніцтва. Гэта вёскі Малінікі, Грэдалі, Кошкі, Падбелле, Дубяжын, Мокрае, Казлы і Райкі.

Прыход не-такі малы, і не павінна быць праблемы з дошкай на рознага роду аб'явы і інфармацыі. Царква — гэта ж аб'ект навукі Хрыстовай і малітвы, хрысціянскай традыцыі і культуры. Звонку храм павінен таксама выглядаць дастойна.

### У ПОШУКАХ РЭЗЕРВАЎ

Кантрольная рада на Бельскім малочным прадпрыемстве, разам з прадстаўнікамі сельскагаспадарчых гурткоў і сялянскай „Салідарнасцю" раіліся над новымі цэнамі скупкі малака і магчымымі рэзервамі.

Радныя вырашылі развязаць дагаворы з вазакамі малака. Вырашана было ліквідаваць некаторыя штаты. Заплатай за пастаўку малака павінна заняцца не пошта, а ОСМ (Акруговае малочнае прадпрыемства). Атрыманы прыбытак сродкаў вырашылі прызначыць на павышэнне цаны малака пастаўшчыкам.

Супрацьстаўныя аргументы кіраўніцтва бельскай ОСМ прысутныя адкінулі.

**В. Семянюк**




(Пачатак у папярэднім нумары)

Трывалымі маральнымі ніцямі лучыцца з беларускім жыццём, з Беласточчынай паэзія Віктара Шведа, ацэненая ў нас надта ўжо сціпла. Традыцыйны паэт, — гаворыцца звычайна, і на гэтым ставіцца кропка. На самай жа справе вершы яго маюць такія салідныя вартасці, якія выходзяць за межы традыцыйнага, ды і далёка не ва ўсім застаецца паэт звязаным з традыцыяй.

Моцны ў яго творчасці патрыятычны матыў. І моцны не толькі эмацыянальнасцю выказвання, лірычнай непасрэднасцю, э і сур'ёзнай заглыбленасцю, унутранай узрушанасцю маналогаў. Паэтычны спеў пра родны край у В. Шведа пазбаўлены лёгкасці, наадварот, нясе часта тугу і боль расстання з дарагім у жыцці. „Уцякаюць мае думкі штодня на палетак з палявок грушкай". Ці: „Так мала слаў лістоў дахаты, хоць іх чытаць любіў мой тата... Цяпер балею я душою, няма бацькоў, няма спакою". Такія ісціны даюцца мудрым вопытам гадоў і тузаюць сэрца чытача менавіта вялікім, агульначалавечым паэтычным сэнсам.

Маці, вёска, хлеб — вось галоўныя духоўныя арыенціры ў творчых пошуках паэта, яго жыццёвы плацдарм. Гэта добра засведчылі першыя кнігі В. Шведа — „Жыццёвыя сцежкі" (1967) і „Дзяцінства прыстань" (1975). Пра што б ні пісаў, вобразы бацькоў і бацькаўшчыны так ці інакш жывуць у творах, адчуваюцца ў мастацкай пазіцыі паэта. І вершы пра беларускія ліцэі, БГКТ, газету „Ніва" ўспрымаюцца не як аператыўныя водгукі на мясцовую тэму, а як выяўленне грамадзянскай адказнасці за беларускую справу.

Не будзем аднак забывацца, што гэта паэт найперш пачуцця, пры тым сардэчны, ласкавы, песенны, здольны захапляцца, любавацца хараством. Невыпадкова свет дзяцей, яго наіўная чысціня так прыцягваюць да сябе В. Шведа. Перад намі раскрываюцца на дзіва багатыя праявы дзіцячых паводзін, падгледжаных у жыцці добрым і разумным чалавекам. І хітраватая ўсмешка аўтара, які апавядае пра нейкую кур'ёзную сітуацыю ў жыцці маленькіх, заўсёды лагодная. За ёю адкрыццё новага, уласціва ўсякаму мастацтву.

У вершах В. Шведа апошняга часу звяртае на сябе ўвагу больш моцны, больш драматычны лірызм. „У кайданы твае, мая любоў, добраахвотна падстаўляю рукі", — так сказаць мог сённяшні Швед. І хоць вобраз гэты не новы ў беларускай паэзіі — сустракаўся ў М. Танка, П. Макаля, — галоўнае, што ён арганічны для сучаснай паэзіі В. Шведа.

Яркі, нават эфектны паэт — Алесь Барскі. Ён не цураецца мастацкага выкліку, дэманстратыўнасці, ён любіць эксперыментаваць, рызыкаваць, гуляючы са словам, як маэстра-ілюзіяніст з рэчамі. Што ж, паэзія і ёсць цудадзейства і звадка з чытачом, да якога жыццё павапочваецца ў вершы незвычайнымі гранямі, а ён, чытач, не хоча гэтага прымаць, бунтуецца, але ўрэшце, заварожаны незвычайнасцю, глытае паэтычны спажытак дзеля свае ж карысці.

А. Барскі заўсёды ў пошуку. Ён творча „пераварыў" самыя розныя літаратурныя напрамкі — ад наіўнай фальклорнасці, рэалістычнай канкрэтнасці, рамантызму да мадэрнізму. І таму, што ўсяго гэтага хацеў паспрабаваць Барскі-літаратуразнаўца („народнасць з мадэрнам сварыцца не мусяць", — выказаўся некалі ён). І таму яшчэ, што А. Барскі развіваецца як паэт імпульсіўны, нават выбуховы, перапоўнены эстэтычнай энергіяй, якую імкнецца як найхутчэй рэалізаваць. Да таго ж Барскі ўспрымае жыццё паэтычна ўзбуйнена, абавязкова суадносячы канкрэтнае і дробнае з велічным. Сонца, Белавежа, сяўба, сэрца, зямля, жанчына, Бог, прыходзяць да яго як жаданыя, дарагія ўвасабленні ўсюдыіснага жыцця. Таму мастацкае мысленне яго такое метафарычнае, артыстычна маляўнічае. Родная, звычайная Белавежа ў яго — і акіян („апускаю пяро, як вясло, з гарадоў да цябе плыву"), і малітва, і наркотык, і

# НЕВЯЛІКІ БАГАЖ

З дарожным мяшком за плячыма — укінуць туды толькі пару лахманоў ды ручнік — паехаць сабе на Беларусь. На худы заплечнік падазрона пaглядаюць таможнікі: невядома, ці не лепш, калі багаж завялікі, чым замалы. Праўда, амаль ніколі мне ў багаж не заглядаюць, але, усё ж, не вельмі прыемна, калі глядзяць на цябе, як на гандляра (лепш сказаць: карабейніка, пастаўшчыка на агалелы савецкі рынак). Калі назад едзеш — тое ж: „У вас малы багаж: напэўна, вязеце золата ці рублі?!“

Сяброў у мяне на Беларусі хапае. Запрашэнні ёсць. Ды і мы — добрыя госці — нядоўга сядзім на адным месцы; хопіць дзень-два, і далей у дарогу. Добра, што і наш беластоцкі універсітэт так цікава развівае кантакты з гродзенскім: едуць да нас хлопцы і дзяўчаты, і мы заглядаем туды падыхаць беларускім ветрам новага.

Я так ужо прызвычаілася ездзіць хаця раз у месяц на Беларусь, што ўжо не магу ўявіць сабе без гэтага нармальнага адпачынку. Ляжаць у сяброў у Гродне зробленыя мною мінулым летам у студэнцкім атрадзе рублі. А колькі ж мне іх трэба, каб туды-сюды заглянуць? Трэба ж свет пабачыць...

Трэба свет пабачыць, сябе людзям паказаць. Паглядзець на рэакцыю людзей на нашыя значкі, на нашу беларускую мову — беластоцкую, якая, дзякуючы ізаляцыі ад усеагарняючых русізмаў, з невялікім прысмакам польскай мовы, гучыць зусім іначай, не „па-просту“.

Божа мой! Я толькі ў мінулым годзе змагла паехаць першы раз на Беларусь! На пяты год працы ў беларускай газеце. І гэта толькі таму, што паехала са студэнтамі на працу! Чаму ж гэта нікому з таго боку мяжы не захацелася працягнуць руку да нас, беластоцкіх журналістаў? Чаму ж гэта нас вельмі часта трактуюць як... эмігрантаў?! Мае дзяды жылі тут спакон вякоў. А як я адчуваю сябе „там“? „Ты полька... А что у тебя в рукзаке? Давай поторгуем“. А на мой адказ, што не яго справа, што ў маёй сумцы, і я не полька, а беларуска, пачую, што беларуска так не апранаецца, не толькі таму, што яна... сялянка, а таму яшчэ, што ніхто „у нас“ не адважыцца так хадзіць. Не апранаюся ж я у нейкія экстравагантныя супер-лахі, а па-турысцку, скромненька: чаравікі, нагавіцы з „польскага“ недэкатызаванага (цяпер ён наймаднейшы ў Гародні, а ў нас тут мала хто яго і носіць) джынсу, куртка, якую мне мая таленавітая матуля пашыла. вось гэты заплечнік... Але ж чаго сюды ехаць, як не на гандаль?! Напэўна, і мяне сюды прывалакло, каб „абдзерці“ ўсе савецкія крамы з тавараў. Няважна, што я магу легальна прывезці сюды тавар на 3 мільёны злотых, а вывезці „падаркі“ на сто (а можа яшчэ і менш будзе) рублёў. А нават паесці добра тут не купіш...

Толькі сярод праўдзівых сяброў адчуваеш сябе як у сябе. Бо ці я тут не ў сябе? Мой нябожчык дзед Мікола нарадзіўся ў Доўгім Барку, а ў Ваўкавыску жыве сям'я дзедавага брата. А яшчэ колькі іншых сваякоў-беларусаў, якім у пашпартах напісалі, што яны — палякі, бо католікі! Цікава, як яны мне адкажуць, калі я стану на іх парозе. Не давялося дзеду Міколу паехаць пасля вайны ні разу на бацькаўшчыну. Ніколі там не быў і мой бацька, які нарадзіўся „тут“, у Цісоўцы. А што скажуць мае дваюрадныя і траюрадныя браты і сёстры? Ці таксама запытаюцца, што я прадаю? А можа з іншым падарункам я хачу да іх прыйсці. Усё ж мару зайсці ў кожную мясціну, дзе ступіла нага маіх прашчураў, прайсці па ўсіх іх сцяжынках...

Маем шчасце жыць у дзіўны і цікавы час перамен, падобны на тыя эпохі, калі дрэйфавалі кантыненты, выпучваліся горы, кіпела вада, паднятая з жывога жывата зямлі. І чуем подых новага, і вятры мінуўшыя гудуць за нашымі плячыма.

...Здзерці шкарлупу недаверу, прымхаў, прадрашэнняў. Дайсці — да свайго. Пехатой, у сонца і непагоду, як босай уражлівай нагой. Няхай, калі нават і пакалечыцца, злая кроў пойдзе на чорныя лясы. Няхай мы знойдзем дарогу да праўды!

**Міра Лукша**

---

„зялёны гармонік“, і родны брат. Па сутнасці, гэта цэлы чалавечы свет, у які паэт так гасцінна запрашае нас.

Адкрываць прыгожае, узвышанае ў штодзённым, паэтызаваць яго ў поўную меру шчодрасці — асаблівасць таленту А. Барскага.

Зваліўся з неба яблык спелы
З раздутым бокам
счырванелым,
упаў мне проста на калені,
і я бяру у жмені,
і пальцамі, як сына, пешчу,
а ён дрыжыць, а ён трапеча,
пераліваецца і звоніць
і асвятляе мне далоні.
у ім ёсць сонца і завея,
у ім ёсць смутак і надзея,
і белавежскай песні рэха,
і водгулле дзяўчыны смеху.

Імкненне да высокага і прыгожага праявілася выразна ўжо ў ранніх кнігах А. Барскага („Белавежскія матывы“ (1962) і „Жнівень слоў“ (1967), хаця паэт заставаўся тут часцінкай сваіх звычайных палеткаў („Конь, плуг і я“). Вобразы ж хрысціянства, міфалогіі, жаночай красы, мастацтва Рэнесансу, да якіх зноў звяртаецца паэт, раскрываюць у яго вершах каштоўнасць духоўных пачаткаў жыцця. Аднак у Барскага жыццё не менш вартаснае і сваімі зямнымі якасцямі. Гэта хістанне паміж звычайным і ідэальным вызначае пэўную драматычную раздвоенасць творчага „я“ паэта. Увогуле ж часцей за ўсё ўмее ён дасягнуць эстэтычнага адзінства ўзвышанага і зямнога, адчуць гарманічнасць жыцця. Не выпадкова менавіта А. Барскі здольны эстэтычна рызыкаваць, асвятляючы „грэшныя“ сітуацыі, здольны быць фрывольным і адначасова далікатным і паэтычным („Гляджу я небу пад сукенку“). У сучаснай нашай паэзіі, цнатліва асцярожлівай і нават трохі пурытанскай, гэты матыў у вершах А. Барскага заслугоўвае ўвагі.

Этапная кніга паэта — „Блізкасць далёкага“ (1983). Адчуванне хараства жыцця, асабліва прыроды і кахання, набывае тут своеасаблівы паганскі смак і адначасова вартасць вышэйшага („З зямлі вырастаю у вечнае неба“). Вельмі моцная ў кнізе лірычная самааддача паэта, тэмпераментнага, эмацыянальна ўзрыўнога, прагнага да жыцця. Непасрэдны працяг гэтага кірунку — унікальны ў нашай паэзіі цыкл А. Барскага „Настальгіі“ — сведчанне яго творчай няўрымслівасці. Апяванне каханай жанчыны мае тут высокі паэтычны напал, уздымаецца да ўзроўню малітвы і разам з тым нясе ў сабе канкрэтыку рэальнасці. Чуецца ў гэтым цыкле выразны водгалас Рэнесансу з яго культам зямнога чалавечага хараства.

У мастацкай прозе „белавежцаў“ надта цікавая індывідуальнасць — Васіль Петручук і яго аповесць „Пожня“ (1987). Гэта празаік, які кранае асаблівай натуральнасцю аповяду, непадробнасцю вольнай гутаркавай інтанацыі. Разгортваючы сцэны жыцця, ён вядзе гутарку з чытачом як з непасрэдным субяседнікам, якому трэба перадаць асаблівасць свайго светаўспрымання. Пры гэтым апавядальная манера В. Петручука стрыманая, небагатая эмацыянальнымі адценнямі. Здавалася б, ён проста фіксуе факты, якія добра ведае, і не дае волі фантазіі, уяўленню. Перад намі — жывы, аўтэнтычны рух жыцця. Літаратуры тут як бы і няма, а ёсць фальклорная быль, знаёмая нам па вусных апавяданнях дапытлівых вясковых дзядзькоў. Але і гэта мастацтва, хоць і народнае. У Петручука да таго ж сакрэт мастацтва крыецца ў неардынарнасці аўтарскай асобы, якая знутры падсвятляе неэфектныя знешне бытавыя гісторыі жыцця. Так пачынаў некалі Якуб Колас-празаік. Блізкі ў гэтых адносінах В. Петручуку Янка Брыль, у якога, праўда, добра заўважаецца паэтычная дыстанцыя паміж героем-апавядальнікам і аўтарам. У творах Петручука такой дыстанцыі, па сутнасці, няма. Яго апавядальнік так блізка стаіць да чытача, што не аддзяляецца ад аўтара.

Добрая назіральнасць, маральная памяць, адчуванне народнага слова, яго вобразна-афарыстычных асаблівасцей дапамагаюць Петручуку тварыць сваю мадэль жыцця. Часам толькі аўтар збіваецца на кніжную лексіку, якая ў кантэксце яго стылістыкі неарганічная і разбурае лад апавядання. Такія словы, як „удзельнічаць“, „колькасць“, „паспяхова“, „адмоўны“ чужародныя для апавядальніка ў „Пожні“. У іншых творах В. Петручука, дзе герой не так залежны ад асяроддзя, слоўнік аўтара вырэйшы, і чытач ужо не мае прэтэнзій да такой лексікі.

*(Заканчэнне будзе)*

---

# Галасую за Беларусь

(Працяг са стар. 3)

СССР безумоўнай і тэрміновай кампенсацыі Беларусі і яе грамадзянам стратаў, звязаных з пераадольваннем вынікаў чарнобыльскай катастрофы.

Дзеля спынення экалагічнага знішчэння асяроддзя БНФ бачыць патрэбу пераарыентацыі народнай гаспадаркі з энерга- і рэсурсаёмістых на экалагічна чыстыя і навукаёмістыя вытворчасці. Неабходна заканадаўча зацвердзіць міжнародна прызнаныя нарматывы чысціні асяроддзя і прадуктаў. Экалагічна небяспечныя народна-гаспадарчыя і вайсковыя аб'екты трэба забяспечыць сучаснымі ачышчальнымі сістэмамі, перапрафіляваць або ліквідаваць. Новыя прамысловыя прадпрыемствы нельга будаваць без згоды мясцовых уладаў і насельніцтва.

*БНФ лічыць, што галоўнай мэтай дэмакратызацыі грамадства з'яўляецца свабода і суверэннасць асобы, забеспячэнне правоў чалавека, прыярытэт грамадзянскай супольнасці над дзяржавай. (...) Павінна быць рэальна, безумоўна і бесперашкодна забяспечаная свабода перакананняў і сумлення, свабода слова, друку і інфармацыі, свабода перамяшчэнняў, сходаў, мітынгаў і дэманстрацыяў, свабода выезду ў іншыя краіны і вяртання назад, свабода асацыяцыяў.*

*БНФ выступае за скасаванне шостага артыкула Канстытуцыі БССР аб кіраўнічай ролі КПСС, за свабоду ўтварэння і дзейнасці розных партыяў і незалежных прафсаюзаў, за развіццё дэмакратычнай сацыяльнай інфраструктуры грамадства. БНФ — за прыняцце закону пра рэферэндум.*

Народ павінен свабодна карыстацца сваімі культурнымі здабыткамі, мець доступ да скарбаў сусветнай культуры. Людзі павінны ведаць праўдзівую гісторыю грамадства, мець доступ да архіваў. Тэрміны сакрэтнасці архіваў павінны быць абмежаваны згодна з міжнароднай практыкай.

БНФ выступае за канстытуцыйнае ўсталяванне дзяржаўнасці беларускай мовы і супроць заканадаўчага замацавання за якой-небудзь мовай статусу міжнацыянальнай. БНФ за нацыянальна-культурную аўтаномію прадстаўнікоў усіх іншых нацыянальнасцяў, што жывуць на Беларусі.

БНФ падтрымлівае адраджэнне рэлігійнага жыцця на Беларусі, адстойвае правы вернікаў усіх канфесіяў у рэспубліцы. Рэлігійным аб'яднанням і структурам лічыць патрэбным надаць юрыдычныя правы грамадскіх арганізацыяў.

Тэкст разгледжанай вышэй выбарчай платформы быў прыняты Соймам БНФ 9 снежня 1989 г. у Мінску.

Агляд зрабіў **Ян Максімюк**

# „Дрэмле памятка дзён...“

Ён па сённяшні дзень уражвае сваёй велічнасцю, строгасцю архітэктуры, даўнінай. Так і здаецца, што вось-вось пачуецца цокат падкоў, іржанне коней, і цяжка праімчыць міма атрад рыцараў у доспехах сярэдневякоўя. Менавіта з гэтым часам асацыюецца палац, зводзячы ў зман тых, хто бывае ля яго сцен. Бо ніколі не бачылі яны, гэтыя сцены, крыжаносцаў, не чулі звону рыцарскіх мячоў. Усяго паўтары сотні гадоў велічнаму гмаху, узведзенаму ў псеўдагатычным стылі па праекту сярэбранага медаліста Пецярбургскай Акадэміі мастацтваў Марконі. А атрымаў ён заказ зрабіць праект будучага палаца ад буйнага землеўладальніка Пуслоўскага.

І вось вырас ён у так званым урочышчы Мерачоўшчына, на самым узвышшы, ля падножжа якога былі выкапаны прыгожыя азёры. Яшчэ і сёння старажылы памятаюць, як ірдзелі на сонцы высаджаныя тут ружы і цюльпаны, як шумелі сваім лісцем рэдкіх парод дрэвы, завезеныя з Італіі, Амерыкі і Бліжняга Усходу. Непаўторнае, дарагое афармленне мелі шматлікія пакоі, у якіх захоўваліся зборы рэдкіх кніг і старажытных рукапісаў.

Раскоша Пуслоўскіх не трывала доўга. Яны хутка абанкруціліся, і тады палац пачаў пераходзіць з рук у рукі. У гады першай сусветнай вайны яго абрабавалі. А яшчэ праз тры дзесяцігоддзі ён згарэў ад рук тых, хто, нашпігаваны догмамі, глядзеў на такія палацы няйнакш, як на ўладанні багацеяў, а не як на плён народнага ўмельства. Месяц бушаваў агонь, паглынаючы ўнікальнае ўпрыгожанне пакояў, мэблю, кветкі і дрэвы ля палаца. Дапамагалі і людзі, на сумленні якіх знішчаны дэндрарый з рэдкімі раслінамі і дрэвамі.

Сёння, гледзячы на будынак, кампазіцыя якога ўласціва класіцызму, міжволі думаеш пра тое, які б помнік мелі мы, каб у тым 44-м знайшоўся разумны чалавек і не дапусціў акту вандалізму ў адносінах да гэтай часцінкі нашай гісторыі. Можам толькі пашкадаваць, што гэта ўсё ж здарылася, прычым здарылася не ў час вайны, а ўжо тады, калі нямецка-фашысцкія акупанты пакінулі Косава.

І па сённяшні дзень сціскаюцца сэрцы людзей, калі яны сустракаюцца з тым, што засталося ад палаца. Таму і пішуць у розныя інстанцыі, бо ніяк не мірацца з думкай, што нельга ўжо яго аднавіць.

Дзеля справядлівасці скажам, што не аднойчы задумваліся ўжо над пытаннем рэстаўрацыі палаца. Ды ўпіралася ўсё ў адну сур'ёзную перашкоду: грошы. Ды свет, як кажуць, не без добрых людзей. Відаць, глыбока запаў у душу і сэрца лёс палаца кіраўніку аграфірмы-калгаса „Беларусь“ Уладзіміру Міхайлавічу Рымшу, які, нягледзячы на гаспадарскія клопаты, рашыўся рэстаўраваць яго.

Задача ставіцца складаная — вярнуць да жыцця помнік архітэктуры, прадумаць аб яго прызначэнні як месцы адпачынку працоўных, з музеем і адноўленым паркам. Побач з палацам плануецца размясціць катэджы для турыстаў, узвесці шэраг іншых неабходных для адпачынку прыбудоў.

Пакуль што вядуцца адмеры, вывучаецца архітэктура, вышукваюцца любыя крыніцы, якія б маглі перадаць той каларыт, тое арнаментальнае знешняе і ўнутранае ўпрыгожанне, тое абсталяванне, якімі вызначаўся палац да знішчэння.

— А такіх дакументаў у нас — кот наплакаў: некалькі здымкаў ды паштовак, — дзеліцца думкамі галоўны архітэктар брэсцкай „Белспецпраектрэстаўрацыі“ Уладзімір Казакоў. — Гэтага вельмі мала, каб вярнуць помніку былое ўбранства. Будзем звяртацца да польскіх улад. Кіраўнік групы гісторыкаў С. А. Адамовіч збіраецца паехаць у Кракаў, каб папрацаваць там у архівах. Вялікую работу прыйдзецца правесці археолагам, з тым, каб пад пластамі зямлі і цэглы вынайсці тыя элементы, якія былі ўласцівы будынку некалі.

Пакідалі мы Косава з пачуццём задавальнення і спакою. Работы па рэстаўрацыі палаца пачаліся. Пройдзе час — і пацягнуцца сюды з усіх канцоў нашай краіны, дый, несумненна, з-за мяжы таксама, людзі, каб дакрануцца да сівой гісторыі, адчуць сябе сведкамі тых дзён, якія „ў нябыт уцяклі“, але памятка якіх — Косаўскі палац — дрэмле па сённяшні дзень. Пакуль што дрэмле.

З кожным днём усё больш абуджаецца наваколле палаца галасамі рэстаўратараў.

**М. Рымач**
**Фота М. Гармаша**
**Івацэвічы**


*Урачыста і велічна выглядае фасадны бок палаца.*

## ТАК БЫВАЕ...

### ВЕР ЛЮДЗЯМ...

Аднойчы пайшла Зося на рынак, яйкі купіць. Усе гаспадыні цанілі іх па 6 тысяч за кілаграм. Да адной жанчыны падыйшла стройная дама і спытала, якая цана яек.

— Шэсць тысяч, — адказала сялянка.

— Што?! — закрычала дама. — Гэта толькі ў Гайнаўцы так цэняць! А ў Бельску па пяць, ці чатыры з палавінай за кілаграм! Апускайце цану!

— Не хочаце браць — не бярыце, гадуйце курэй і яйкі дарма можаце аддаваць. А цяпер я маю права ставіць ім цану! — адказала абураная сялянка.

Зося вырашыла паехаць па яйкі ў Бельск. Прыехаўшы, адразу пайшла іх купіць. Жанчын, якія іх прадавалі, было шмат.

— Колькі за кілаграм? Шэсць з палавінай?

Паехала Зося дахаты, нічога не купіўшы.

— Вось, бачыш ты! — скардзілася Зося суседцы. — Вер людзям. Дзень змарнавала, грошы аддала і яек не купіла!

**Аўрора**




(Працяг са стар. 4)

— не трэба будзе плаціць пенсіяў,

— не будуць патрэбны дамы для састарэлых, прытулкі,

— менш трэба будзе месц у шпіталях (там пераважна ляжаць старыя),

— сем'і не будуць клапаціцца аб пахаванні бацькі ці дзеда (іх пахаваюць на кошт войска і то ў невядомым месцы, каб не даглядаць магілы і не насіць кветак).

Дзякуючы маёй ідэі грамадства будзе заўсёды маладым і не давядзецца яму мець лішніх клопатаў са старымі, бо яны пазабіваюцца ваюючы. Не, не. Не спяшайцеся асуджаць мяне. Папершае, я не супроць старых, але маладых мне вельмі шкада. Па-другое, вайны ніколі б не было, каб народы паслухалі маёй навукі, бо маладыя не хочуць ваяваць, а старыя чым старэйшыя, тым больш баяцца. Тым, хто паверыць у маю ідэю, і тым, хто не паверыць, жадаю мірнага жыцця!

**Васіль Петручук**

---

Але да так радыкальных змен не дайшло, хаця паволі справы і пасоўваліся ў гэтым кірунку.

Знамянальна, што са святочным дакладам было даручана выступіць А. Луцкевічу (Дарэчы, ён займаў у гэты час пасаду віцэ-старшыні БНК). Ягоны аўтарытэт павінен быў перакanаць тых, хто яшчэ хістаўся з далучэннем да працэсу камунізацыі заходнебеларускага руху. І трэба прызнаць, што даклад яго быў вытрыманы, хаця і ў стрыманых, але ў пракамуністычных тонах. У ім ён амаль не закранаў сутнасць ідэі БНР і гісторыю яе абвяшчэння, а галоўную ўвагу прысвяціў актуальным беларускім справам. Берлінскую канферэнцыю ён назваў „знамянальнай падзеяй у жыцці беларускага народа“, а рашэнне аб роспуску ўрада БНР — „гістарычнай неабходнасцю“. Практычна ўвесь яго даклад быў прасякнуты ідэямі зменавехаўства і імкненнем апраўдаць рашэнні Берлінскай канферэнцыі. У духу Берлінскай канферэнцыі прайшло і само ўрачыстае пасяджэнне.

Сам жа А. Луцкевіч амаль не стаў ахвярай камуністычнай дэмагогіі. Вядома, што савецкія ўлады актыўна агітавалі яго перабрацца ў БССР і амаль не дасягнулі ў гэтым поспеху. Перашкодзілі ж пераезду польскія ўлады, якія адмовіліся даць яму заграничны пашпарт для выезду ў СССР. Гэта акалічнасць, відаць, і ўратавала яго ад згубы ў сталінскай мясарубцы.

Эйфарыя з нагоды камунізацыі беларускага нацыянальнага руху не была, аднак, аднагалоснай. Знайшліся сярод беларусаў цвярозыя галасы, якія папярэджвалі, што камунізацыя можа прывесці толькі да згубы. На знак пратэсту супроць прасавецкай пазіцыі БНК з яго складу выйшлі Беларускі хрысціянскі саюз і Беларускі сялянскі саюз. У БНК засталіся практычна адны грамадаўцы.

Другая галосная акцыя, накіраваная на прадухіленне спаўзання беларускага руху на пракамуністычныя пазіцыі, была наладжана ў Празе. Пятро Крычэўскі, старшыня Прэзідыума Рады БНР, які ў свой час прызначаў А. Цвікевіча старшынёй Рады міністраў БНР, на старонках эміграцкай прэсы рэзка выступіў супроць свайго былога сябра і вучня. „Авантура Цвікевіча, — пісаў ён, — можа разглядацца як здрада народу, волі якога ён не выпаўніў і перайшоў у абоз яго ворагаў, каб замацаваць уціск акупантаў над змучанай бацькаўшчынай“.

Асабліва вострым і зласлівым нападкам падвергла А. Цвікевіча і яго групу пражская арганізацыя беларускіх эсэраў Тамаша Грыба. Т. Грыб называў А. Цвікевіча „беларускім Чычыкавым, які запрадаў бальшавікам мёртвыя душы членаў свайго ўраду“. Пражскія эсэры распрацавалі нават план актыўнага процідзеяння распаўсюджванню ідэй зменавехаўства і ўзрастаючаму ўплыву „Грамады“ на заходнебеларускія масы. Планавалася з гэтай мэтай аб'яднаць сілы пражскага і ковенскага цэнтраў беларускай эміграцыі, бо менавіта ў іх асяроддзі знаходзілася найбольшая колькасць працаўнікоў зменавехаўства. План нават пачаў ажыццяўляцца. У Коўна Вацлаву Ластоўскаму, нефармальнаму лідэру беларускай калоніі ў Літве, была накіравана прапанова пільна прыбыць у Вільню, каб стаць на чале масавай беларускай арганізацыі народніцкага і антыкамуністычнага характару, якая б магла паспяхова канкурыраваць з „Грамадой“. Планавалася таксама забяспечыць прыезд у Польшчу старшыні Прэзідыума Рады БНР Пятра Крычэўскага. Сваім аўтарытэтам ён павінен быў прыдаць адпаведную палітычную вагу новай антыграмадаўскай палітычнай акцыі. Аднак гэтыя планы так і засталіся ўсяго толькі планамі. Ідэі зменавехаўства паступова падточвалі і ковенскі беларускі цэнтр. Неўзабаве ў лагер зменавехаўцаў перайшоў і сам Вацлаў Ластоўскі, на якога так разлічвалі пражскія беларускія эсэры.

*(Працяг будзе)*

---

* БНК — намінальна вядучая каардынуючая беларуская палітычная ўстанова ў Вільні, створаная ў 1921 г. дзеля таго, каб аб'яднаць усе палітычныя плыні беларускай грамадскасці.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, мы з мужам пражылі 6 гадоў. Пажаніліся з вялікага кахання. І тады мне ў галаву нават не прыйшло, што так хутка ўсё ў нашым жыцці зменіцца. Перад шлюбам мы па вуліцы хадзілі не інакш, як трымаючыся за рукі. Ён туліўся да мяне і быў вельмі ласкавы. Не піў і не курыў. У кампаніі выпіваў толькі сімвалічны кілішак гарэлкі. І я, і мае бацькі лічылі, што лепшага мужа мне не знайсці. Які ён ёсць сапраўды, паказаў мне ўжо на другі дзень пасля вяселля. Падзяліў сабраныя грошы на дзве кучкі і сказаў: „Палавіна твая, а гэта палавіна мая!". Ад таго часу нешта ўва мне ўзбурылася. Праз пару гадоў у нас нарадзілася дачушка. І толькі яна асвятляе сёння маё жыццё. Муж мой, замест прывязанасці, якую аказваў мне дагэтуль, дэманструе вельмі часта свае нямілыя адносіны да мяне і агрэсіўнасць. Найбольш у вольных ад працы хвілінах любіць прабываць у кампаніі. Не скажу, каб цікавілі яго бабы, але за гарэлкай свету не бачыць. Ну, не пазнаць чалавека! І калі прыходзіць пасля такой сустрэчы з сябрамі дахаты, дык цяжка нават адазвацца да яго, бо што ні скажу, усё можа быць выкарыстана супроць мяне. Тады стараюся маўчаць, не адзывацца, ціхенька падсунуць яму яду ды легчы спаць. І не давядзі Гасподзь, каб нешта яму не спадабалася! Тады можна і з хаты ўцякаць. Ды, зрэшты, пару разоў я ўжо начавала з дзіцём у бацькоў. Так што жыццё маё сталася нецікавае. Нікуды разам не ходзім, не бавімся, нават на святы да маіх бацькоў ён не заўсёды прыходзіць, і я з дачкой тады іду адна.

І вось надараецца мне аказія, каб вырвацца да сваякоў у зусім іншы раён Польшчы, дзе прапануюць яны мне добра платную працу ў прыватнай суполцы. Праўда, там я вымушана буду вельмі цяжка працаваць, але бацькі мае згаджаюцца запекавацца дачушкай. Я так думаю сабе, што калі б папрацавала там гады два, дык магла б някепска зарабіць, тым больш, што будуць плаціць у валюце. Гэта прынамсі выратавала б мяне ад фінансавых клопатаў, якія спадарожнічалі мне на працягу ўсіх гэтых шасці гадоў, хаця муж мой мае цалкам добрую працу. А што ж рабіць, калі сваіх сяброў ён кахае больш за сям'ю. На ўсё грошай не хопіць! Вось так і вырашыла я, што спрабую шчасця далей. Але крыху баюся пакідаць яго аднаго з усімі гэтымі праблемамі. А як ты раіш, Сэрцайка?

**Веся**

Веся! Што ж можна раіць чалавеку, які, здаецца, прыняў ужо рашэнне. Здаецца, твае пачуцці да мужа крыху пагаслі, калі ты так лёгка вырашаеш выехаць на два гады да працы. Калі б былі яны гарачыя, напэўна так лёгка не ад'ехала б далёка ад яго. Але што ж рабіць у тваёй сітуацыі, калі муж працуе фактычна на сяброў, а не на сям'ю?! У такім аспекце можна цябе зразумець. Ёсць аднак жа і пагроза для твайго далейшага сямейнага жыцця. Я разумею, што ад часу да часу ты наведаеш свайго мужа і дачушку, але ўсё ж такі большасць часу ён будзе праводзіць адзін, тым больш, што твае бацькі запякуюцца дачкою. Пакуль што ёсць у яго кампанія, якая складаецца з сяброў ад кілішка. Але памятай, што да такой кампаніі часта прыстаюць і жанчыны. Глядзі, каб не знайшлася якая прылепка, якая прычэпіцца і да твайго мужа! А што датычыцца грошай, якія ты заробіш, дык таксама не надта вядома, ці не давядзецца іх аддаць мужу-марнатраўцу. Будзе міленькі, кахаючы, ласкавы, а ты забудзешся пра ўсё і аддасі іх. А сябры ізноў будуць цешыцца...

**Сэрцайка**

## Вер-не-вер

Астроне, мне прысніўся дзіўны сон. Быццам бы мой сябра запрасіў мяне ў нейкі рэстаран. Нібы ён мне быў нешта вінаваты, ну і абяцаў, што мне паставіць. Назаказваў усяго, афіцыянт прынёс нам нейкія цікавыя стравы, але я бачу, што прынёс ён не дзве, а чатыры порцыі. І тут ужо, бачу, сядзяць ля нас яшчэ двое нейкіх незнаёмых, праўда, ведаў іх мой сябра. Я папрасіла дзве бутэлькі гарэлкі, а сябра заказаў яшчэ дзве літровыя бутэлькі і гэтая гарэлка стаіць на падлозе пад сцяной у адным радзе. Ну і так быццам бы мы сядзім каля гэтага стала, і ў гэтым моманце падыходзіць да нас афіцыянт і просіць майго сябра, каб падыйшоў да тэлефона, бо яму званяць. Ён устаў і пайшоў. Мінае паўгадзіны, а яго няма. Мінае гадзіна — а ён не прыходзіць. А я сяджу з гэтымі яго знаёмымі і думаю: „Ну, і пачаставаў жа! Прыдзецца мне цяпер за ўсё гэта плаціць, а з грашыма туга..."

Астроне, як ты думаеш, ці гэта толькі жыццё навеяла гэтакі сон, бо вядома, што з грашыма кепска ва ўсіх, ці можа ён нешта абазначае?

**Юля**

А мне, Астроне, прысніўся смок вавэльскі. Быццам бы ён паклаў сваю лапу на маю ручку, а я гляджу і бачу, што ў яго толькі чатыры пальцы. А тады мне здаецца, што смок ляжыць у труне нежывы. І трэба толькі прынесці вады і папырскаць яго, тады ён ажыве. Я ўвесь час вельмі баялася.

**Анюта, 5 гадоў**

Юля! Твой сон, можа, навеяны і сапраўды рэчаіснасцю. Але ж і тое, як паводзіў сябе твой сябра, які запрасіў цябе, а пасля ўцёк, каб не плаціць, а яшчэ больш тыя бутэлькі, што стаялі ў адным радзе пад сцяною, — усё гэта абазначае, што маеш дачыненне з неадпаведнымі людзьмі. Ты павінна змяніць кампанію.

А ты, Анютка, скажы сваім бацькам (не ведаю, хто цябе кладзе спаць — мама ці тата), каб не расказвалі табе нанач такіх страшных казак. Казкі павінны быць лагодныя і прыемныя. І абавязкова з добрым канцом, каб ты магла спакойна заснуць, каб сніліся табе радасныя сны і каб будзілася ты і вітала новы дзень шчаслівая.

**Астрон**

„Ніва" 11.II.1990 г




### КНЭДЛІ З ПЯЧУРЫЦАМІ

На паўкілаграма бульбы трэба ўзяць 15 дэкаў пшанічнай мукі, 2 лыжкі крухмалу, 2 яйкі, паўкілаграма пячурыц, 20 дэкаў цыбулі, 2 лыжкі тлушчу, 1 яйка, 1 лыжку сцертай булкі, соль, перац, 10 дэкаў сцертага галандскага сыру, лыжку масла.

Цеста падрыхтаваць, як на бульбяныя клёцкі, так званыя капытцы. Менавіта, звараную бульбу стаўчы, астудзіць, дадаць пшанічную муку і крухмал, а таксама яйкі і з гэтага зрабіць цеста.

Пячурыцы ачысціць, памыць, асушыць, абабраную цыбулю дробна пасячы, падтушыць на тлушчы, дадаць пячурыцы, стушыць, пасаліць. Стушаныя пячурыцы дробна пасячы, перамяшаць з яйкам і са сцертай булкай, заправіць па смаку соллю і перцам.

З цеста рабіць валікі, а пасля кожны валік рэзаць на порцыі, з якіх на далоні, пасыпанай мукою, рабіць аладкі таўшчыны каля 1 см, напаўняць іх фаршам з пячурыц і склейваць у форме шарыкаў. Адразу варыць у кіпячай пасоленай вадзе. Звараныя, адцадзіць і палажыць на падагрэтай талерцы, паліць растопленым маслам і пасыпаць сцертым сырам. Падаваць як самастойную страву на абед або на вячэру, дадаўшы нейкую салату.

### МАКАРОН З САРДЭЛЬКАМІ

На 25 дэкаў макарону трэба ўзяць 4 сардэлькі, 1 лыжку шмальцу, 2 цыбуліны, паўшклянкі малака, 2 лыжкі мукі, 4 лыжкі алею, 15 дэкаў сцертага сыру, соль і перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Макарон зварыць у пасоленай вадзе. Цыбулю абабраць, спаласнуць, дробна нарэзаць, заліць малаком на паўгадзіны, а пасля адцадзіць, пасыпаць прасеянай мукой і падсмажыць на алеі. Сардэлькі падсмажыць на тлушчы. Звараны макарон адцадзіць, перамяшаць са сцертым сырам і падсмажанай цыбуляй, пасыпаць перцам. Вылажыць на падагрэтую талерку, аблажыць сардэлькамі. Пасыпаць пятрушкай. Страву падаваць з салатай або з вострым таматным соусам.

### МАКАРОН ЗАПЯКАНЫ З ВЯНДЛІНАЙ

На 25 дэкаў макарону ўзяць 20 дэкаў шынкі або нятлустага вэнджанага бачку (варанага), 15 дэкаў сцертага жоўтага сыру, 2 яйкі, 1 шклянку малака ці смятаны, 1 лыжку масла, соль і перац, 4 лыжкі пасечанай зялёнай пятрушкі.

Макарон зварыць у вялікай кольксці пасоленай вады, калі будзе мяккі, адцадзіць. Перамяшаць са сцертым сырам і нарэзанымі дробненька шынкай або бачком. Запраўіць па смаку соллю і перцам. Яйкі збіць з малаком ці смятанай. Падрыхтаваны макарон вылажыць у форму, змазаную маслам. Зверху заліць мяшанкай з яек і малака. Яшчэ спырснуць маслам і ўставіць у духоўку, запячы. Класці на талерку, пасыпаную пятрушкай. Есці з „кечупам" і салатай з капусты.

**Гаспадыня**




### ЗАДУМАЙ ПАВЕСІЦЦА, А ЧОРТ ВЯРОЎКУ ЗНОЙДЗЕ.

Ёсць ля Дубіч урочышча Месцькі лес. Стаяў там некалі хутар, жылі людзі. Калі Параска выходзіла замуж за Юзюка, дык не хацела пакінуць у адлеглай за пятнаццаць кіламетраў вёсцы сваёй адзінокай маці. Старая ўжо яна была, і Парасцы ніякавата рабілася на самую толькі думку, што можа яна там застацца на чужой ласцы. Не пад сілу нават будзе адной і ў агародзе корпацца. І паставіла перад Юзюком справу ясна — без маці ў ніякія замужаствы яна не пойдзе. У яе таксама свая гаспадарка ёсць, ды і ў вёсцы, а не на нейкім там хутары. Юзюк нават не пярэчыў. Яму нават было і на руку — прададуць жа цёшчыну гаспадарку, дабытак перагоняць да яго, а старая хай сабе жыве. Унукаў папільнуе. Так яно і сталася.

Нічога дрэннага не падазраючы, пайшла старая за дачкою на зяцеў хлеб. Але ў жыцці яно бывае так, як у прыказцы: „З сынам біся, дзярыся і за хлеб бярыся, а з зяцем біся, дзярыся і за клямку дзяржыся". Так яно і выйшла.

Не мінула і года, а старая пачала перашкаджаць у новай сям'і. Нават дачка, якой так верыла, проста чортам кідацца пачала. Маці ва ўсім ёй перашкаджала: то не так села, то не так паставіла, то не так ступіла. Але не было дзе падзецца. Пачаткова выгналі старую матку ў сені, але потым і там перашкаджаць пачала, дык перанеслі ў хляўчук. Найгорш дакучаў голад, бо ў дачкі ўся ежа пад замком была. Думала ўжо пайсці пабірацца, але неяк брыдкавата, маючы дачку з добрай гаспадаркай. Людзі засмяюць. І вырашыла адно: чым гэтак жыць, дык ужо лепш памерці. У жыцці яно наогул бывае так, што смерць з'яўляецца тады, калі не трэба, і не дачакацца яе тады, калі патрэбна.

— Пайду павешуся, — вырашыла яна.

Дачакалася, калі нікога не было дома, і пайшла ў бок клуні. Толькі тады спахапілася, што вяроўкі няма. Аж раптам каля яе два панічыкі пачалі круціцца. Ужо і вяроўку нясуць. Не паспела старая адумацца, а яны яе — лап пад рукі — і вядуць, быццам бы нейкую паню. Проста ў клуню цягнуць. Тут і трэці паявіўся і вяроўку ёй на шыю пачынае накладваць. Старая спалохалася не на жарты — няйначай як проста ў пекла зацягнуць. Апамяталася і давай маліцца: „Да ўваскрэснець Бог і разбягуцца ворагі яго..." Тыя тады так і адляцелі ад яе, быццам бы іх зусім і не было.

Вярнулася перапалоханая старая ў хлеўчык і, пагадзіўшыся з лёсам, сваёй смерці чакаць пачала.

**Міхась Шаховіч**

# ЗОРКА

СТАРОНКА ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ

ДЛЯ САМЫХ МАЛЕНЬКІХ

## ДЗЯКУЕМ

**Дзякуем нашаму чытачу і пісьменніку Мікалаю Бусько з Баранавіч за мілы падарунак для сваіх сяброў у Польшчы. Кніжкі з аўтографам паэта атрымалі абодва беларускія ліцэі — у Бельску і Гайнаўцы, наша рэдакцыя, беларускі музей у Гайнаўцы, а таксама некалькі настаўнікаў беларускай мовы.**

**(Просім прадстаўнікоў ліцэяў і музея заглянуць у нашу рэдакцыю, каб забраць падарункі).**

**А нашым чытачам прапануем урывак з казкі Мікалая Бусько пра павучка.**

**КАЗКА**

**Ад ліцінкі**
**да сучка**
**без кручка,**
**без чаўначка**
**цягне,**
**цягне**
**павучынку**
**і не ведае**
**спачынку,**
**сетку вяжа**
**павучок,**
**пачапіўшы**
**на сучок.**
**Тут уток,**
**а тут аснова —**
**сетка**
**тчэцца**
**адмыслова**
**ад ліцінкі**
**да сучка**
**без кручка,**
**без чаўначка.**

**(Працяг на стар. 10)**



**Кася Сегень — вучаніца другога класа Падставовай школы № 3 у Бельску — удзельніца беларускага дэкламатарскага конкурсу.** Фота Я. Чэрнякевіч.

Настаўніца пажадала вучням другога класа добрых канікул, глянула ў акно — там валіў густы снег, падаў на асфальт і адразу таяў. Ну і слотная ж зіма выдалася!

Дзеці і не заўважылі хмурнага дня за вокнамі. Крыкнулі „ура!", а потым „да пабачэння!" сваёй настаўніцы і выскачылі з класа.

Настаўніца пастаяла яшчэ трошкі ў пустым класе. Уздыхнула: няўжо не выгляне сонейка? Аб чым жа тады будуць пісаць яе вучні ў сачыненні „Мае канікулы", калі ім давядзецца два тыдні прасядзець у хаце?

### Я І МОЙ ТЭЛЕВІЗАР

Віця ўляцеў у хату і хутка, пакуль мама не выглянула з кухні, распрануўся, шлёпнуўся на мяккае крэсла каля стала і схапіў ручку. Калі мама заглянула да яго, ён, нізка схіліўшыся і сапучы, ужо нешта пісаў. Мама падазрона спытала:

— Зноў увесь дзень вылупляў вочы ў тэлевізар?

Віця не адразу падняў галаву. Вочы ў яго былі злосныя.

— Дзе там! Перад тваім прыходам забег да Міці, каб парашчца, як пісаць сачыненне: увесь дзень мучыўся над ім.

Мама недаверліва паглядзела на яго, аднак спакойна сказала:

— Добра, пішы. Але не задоўга, бо заўтра ўжо ў школу, трэба выспацца, а ты разленаваўся за канікулы.

Віця ўлавіў з яе слоў толькі тое, што заўтра ў школу, астатняе прапусціў міма вушэй. Трэба напісаць апавяданне, не хочацца псаваць настрой настаўніцы. Яму вельмі падабалася, калі настаўніца пасля добрага адказу або добра напісанай дык-

Віктар Кава

## МАЕ КАНІКУЛЫ

тоўкі гладзіла яго па галаве. Было прыемна і чамусьці нейк не па сабе.

Але аб чым пісаць? Нічога цікавага не здарылася. Можа, выдумаць? Колькі розных захапляючых гісторый ён бачыў у тэлевізары! Увесь сшытак можна запісаць. Віця рашуча вывёў на паперы: „Мы з татам селі ў самалёт і паляцелі ў Афрыку паляваць на кракадзілаў". І даўгапіс нібы спатыкнуўся. З паперы на Віцю як на яве глянулі вочы настаўніцы. Яны з папрокам гаварылі: „Навошта лжэш?" Віця пачырванеў, парваў паперу і са злосцю паглядзеў на тэлевізар. Гэта ён вінаваты, што Віця не мае аб чым пісаць! Вось няхай настаўніца і крычыць на тэлевізар!

„Я ўстаў раніцай, памыўся, паснедаў, хацеў ісці пагуляць. І проста так сабе, каб праверыць, ці працуе тэлевізар, уключыў яго. А там паказвалі мультыплікацыйныя фільмы. І шмат! Калі яны скончыліся, пачаўся фільм аб летніх прыгодах двух хлопчыкаў. Ці ж я мог гэта не паглядзець? Ну, а потым настаў час палуднаваць".

Віця нават усміхнуўся задаволены — чыстую праўду піша.

„Пасля абеду я цвёрда вырашыў ісці на двор. Але тут пазваніў мой сябар Міця. Аказвалася, яго маці пасля абеду прыйшла дадому з працы, таму што захварэла. І выгнала Міцю гуляць. А яму вельмі хацелася паглядзець фільм для дарослых. А я быў дома адзін. Зноў уключылі тэлевізар. Нельга ж адмаўляць госцю і сябру. І сам сеў побач з ім..."

Віця на момант задумаўся. Пісаць ці не пісаць усю праўду пра гэты вечар? Рашуча махнуў рукой: толькі праўду!

**(Працяг на стар. 10)**

**Пятро Сушко**

### СНЯЖЫНКА

**Дзяўчынка Ірынка**
**Злавіла сняжынку.**
**Сняжынкі не стала,**
**Сняжынка растала.**

### ХОДЗІЦЬ ПОЛЕМ ДЗЕД...

**Ходзіць полем дзед сівенькі**
**З берасцянаю сявенькай.**
**Рассявае ён сняжынкі,**
**Зіхатлівыя смяшынкі.**

### ГОРКА

**Снежную зрабілі горку**
**Янка, Слаўка і Рыгорка**
**І не могуць з ёй расстацца,**
**Рады б нанач тут застацца.**

### КАРМУШКА

**Прылятаюць птушкі**
**Ўзімку да кармушкі,**
**Бо зімой не знойдуць**
**Ні жучка, ні мушкі.**

### АГУРОК

**Любіць ён, зялёненькі,**
**Пагуляць у хованкі.**
**Паміж лісця на градзе —**
**Вось яго шукайце дзе!**

### КУЛІК

**У Куліка**
**Адна работа:**
**Заўжды хваліць**
**Сваё балота.**

### БАРСУЧОК

**Барсучок-працаўнічок**
**Паваліўся на бачок:**
**Ён хвілінку адпачне —**
**Завіхацца**
**Зноў пачне.**

### ЛІСКА КУРАЧАК ЛІЧЫЛА

**— Раз, два, тры, чатыры, —**
**Ліска курачак лічыла, —**
**Пяць, шэсць, сем, восем...**
**Толькі пер'е засталося.**

### ЧАРАПАХА

**Бегла ў лазню**
**Чарапаха,**
**Несла венічак**
**Пад пахай.**
**Бегла, бегла,**
**Ой бяда,**
**Знікла ў бочцы**
**Ўся вада.**

# ЗОРЧЫН КОНКУРС



**Разглядзі ўважліва гэты малюнак. Напішы апавяданне на блізкую да малюнка тэму з жыцця вашай ваколіцы. Сваё апавяданне прышлі ў „Зорку“.**

(Працяг са стар. 9)

# МАЕ КАНІКУЛЫ

„Міця пайшоў ад мяне перад самым маміным прыходам. Мне было непрыемна, што я не выканаў абяцання не сядзець перад тэлевізарам і пагуляць... Каб не смуціць маму, я хутка збегаў на двор, прабегся па снезе і спыніўся на хвіліначку падыхаць свежым паветрам...“

Віця сумна паківаў галавой. Таму што і на другі дзень, і на трэці, і на чацвёрты тэлевізар не адпускаў яго ад сябе. Папершае, на канікулы сабралі самыя лепшыя перадачы, а падругое, Міця пачаў прыходзіць да яго дадому: яго мама яшчэ хварэла і пільнавала, каб „не гарэў без патрэбы тэлевізар і каб сын не псаваў сабе вочы“. Віцю давялося таксама праседжваць з ім побач.

А потым іх тэлевізар, мабыць, змучыўся, таму што аднойчы пстрыкнуў, кашлянуў і замоўк. Віця і Міця ўздыхнулі. Падышлі да акна — сонца ззяе, мароз трашчыць, лёд — як шкло, а вунь на пляцоўцы каток заліваюць. Затрапяталіся хлапечыя сэрцы — хутчэй на двор, зараз жа!

Віця прычмокнуў губамі — эге, як кажа мама, думаў так, а выйшла інакш. Калі Віця ўжо апрануўся, а Міця нецярпліва яго падганяў, на парозе з'явілася Віцева маці. Яна папрасіла сына пабыць гадзінку ў хаце, таму што ёй трэба пайсці да лекара, а ў гэты час павінен пазваніць па тэлефоне тата. Хлопцы павесілі насы, але ненадоўга: праз гадзіну будуць гуляць на двары.

Але ў Міці быў каляровы тэлевізар. Гэта ж такая прыгажосць! І Віця не змог адарвацца ад яго да самага прыходу Міцевай маці, цёткі Паліны, гэта значыць, да вечара.

Ну, а на наступны дзень цётка Паліна пайшла працаваць, таму тэлевізар не адпускаў хлопцаў ад сябе ўвесь дзень. Так працаваў, як бы яго хтосьці падгаварыў... .

Віця апісаў усё гэта, яшчэ раз глянуў на згаслы экран, з сумам падумаў: „Калі ж прыйдзе майстар, каб направіць?“ — і рашуча дапісаў: „Вось так тэлевізар адабраў у нас з Міцем канікулы“.

(У скарачэнні).

(Працяг са стар. 9)

# КАЗКА

Плесці,
ткаць —
адзіны клопат.
Ёсць на тое
спрыт
і вопыт.
Стыне ў цемры
ліпы крона,
а павук
да тэлефона
падключае,
як заўжды,
павуцінкі —
правады.
Звоніць сонцу,
звоніць
рана:
— Узнімайся
з-за
кургана!..
Ад лісцінкі
да сучка
без кручка,
без чаўначка
майстраваў
ён,
хват-дасветнік,
працаваў
ён,
ткач
і сетнік.
Хітрай,
моцнай
сеткі срэбра
ледзьве бачна,
што й патрэбна.
А ў сінь-вочках
для красы
ззяюць
кропелькі расы
ад лісцінкі
да сучка —
спрыт
і вопыт
павучка.

Вандравала
ў лісцях
муха —
бзынь! —
і ў сетцы
зеляну ха.
Хоць жалосна
галасіла,
крыллем біла
што ёсць сілы, —
сетка
сплецена
як трэба:
у сінь-вочках
гасне
неба
ад лісцінкі
да сучка —
спрыт
і вопыт
павучка.
Расчыхвосціў
да сняданку,
згаладалы,
палапянку.
На сняданак —
бум,
дзінь,
дзень! —
трапіў
рыжы авадзень.
На абед
захрас
камарык,
потым
мятлік —
перастарак.
Ад лісцінкі
да сучка
мошку,
восвачку,
жучка, —
ўсё жывое
ловіць,
нішча
ненажэрны
павучышча.
Заплятае
хітра
сеці
на ўсю ліпу
ў белым цвеце.

# ПАЗНАЁМІМСЯ

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Я. Маўра, 56, кв. 11. Наташа Андрончык (7 клас).

* * *

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Адоеўскага, 83, к. 1, кв. 34. Аксана Юркевіч (7 клас).

* * *

БССР, 220025, г. Мінск-15, вул. Я. Маўра, 60, кв. 40. Каця Лазунова (7 клас).

* * *

БССР, 220015, г. Мінск-15, вул. Адоеўскага, 83, к. 1, кв. 35. Ілона Чубанова (8 клас).

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 49, кв. 31. Марыя Ахрэмчук (9 клас).

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 49, кв. 31. Вольга Ахрэмчук (7 клас).

* * *

БССР, 220060, г. Мінск-60, вул. Волаха, 49, кв. 23. Юлія Нікіценка (9 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 104, кв. 16. Таня Савіч (9 клас).

* * *

БССР, 220036, г. Мінск-36, вул. К. Лібкнехта, 104, кв. 16. Лена Савіч (3 клас).

* * *

БССР 220036 г. Мінск-36, вул. Купрыянава, 19, кв. 33. Андрэй Лосік (6 клас).

* * *

СССР, 346523, Ростовская обл., г. Шахты, ул. Баррикадная 12 В, кв. 23. Света Шубина (6 клас).

* * *

БССР, 225710, Брэсцкая вобл., г. Пінск. вул. Савецкая, 10, кв. 6. Стачынскаму Дзянісу (5 клас).

* * *

СССР, 347775, Ростовская обл., Целинский район, село Ольшанка, [illegible]оновой О. (3 клас).

# ВЯСЁЛЫ КУТОЧАК

* * *

На Новы год прыйшоў дзед Мароз павіншаваць Алёнку і Шурыка са святам. А маленькі Шурык расплакаўся.

— Не плач, Шурык, бо я буду вымушаны забраць цябе ў свой мяшок, — сказаў дзед Мароз.

— Ой, што вы! — спалохалася Алёнка. — Ён жа вам усе цукеркі паесць!

* * *

Вярнуўся Міша са школы і кажа:

— Сёння нам настаўніца сказала, што перад тым, як брацца за кніжкі і сшыткі, абавязкова трэба рукі памыць.

— Абавязкова трэба мыць, — згаджаецца бабуля. — І не толькі перад тым, але і пасля таго, як патрымаеш у руках свае сшыткі.

# АДГАДАНКА



Гэтую фігуру з квадратным акенцам у сярэдзіне разрэжце на чатыры часткі так, каб з іх можна было скласці квадрат.



Адрас рэдакцыі: 15-950 Białystok. ul. Wesołowskiego 1. „Зорка“.

## РАСТЛУМАЧАЛЬНЫ СЛОЎНІК „НІЎКІ“

**Парафіна** — фінская лазня.
**Парнас** — лазня.
**Партызан** — школьнік на ўроку (за партай).
**Парушына** — чыгуначная каляя.
**Парыж** — голад (не горад) у Кітаі.
**Патагонія** — жара.
**Патрава** — сенакос.
**Пахвіна** — арамат алкагольнага напітку.
**Паходня** — марш.
**Пацалаваны** — сшыты або склееньі.
**Пашана** — корм для жывёлы.
**Паштоўка** — працаўніца пошты.
**Плакат** — карнік з мяккім сэрцам.
**Порткі** — рабочыя ў порце.
**Прыбор** — узлесак.
**Рагавік** — самец рагатай жывёлы.
**Рагатка** — дзяўчына, якая голасна смяецца.
**Радзіма** — лёгкая, вясёлая пара года.
**Радзіны** — закаханы ў Зінцы.
**Радуга** — вясёлы паўкруг.

„ядань“

### НЕДАСТУПНЫ

Я да яго прыходзіў зранку
Гадзіне гэтак а дзевятай.
Ён так сказаў, нібыта гаўкнуў:
— Хіба не бачыш? Я заняты!
Пастукаўся перад абедам.
Хоць у самога сэрца ў пятах;
А ён мне зноўку (так і ведаў):
— Хіба не бачыш? Я заняты!
І вечар быў, і новы ранак,
Другі, чацвёрты і дзесяты...
Я збіў амаль дашчэнту ганак, —
Начальнік быў усё заняты.
Яго, сустрэўшы сення ўранні,
Назваў я ў вочы бюракратам.
— Не сып, — гаворыць, — соль на раны:
Хіба не чуў ты? Я ўжо зняты...

**Іван Сушко**
*(З кнігі „Восці непагатоў“)*

## НІЎКА

1.
2.

## СПАЎТОРНАСЦЬ НЕПАЎТОРНАГА

620
Здабываючы не сэрца, старайся не страціць сваёй галавы.
621
Жабы ніколі не згодзяцца са сцвярджэннем арнітолагаў, што бусел не з'яўляецца драпежным птахам.
622
Калі маеш рацыю — не крычы; праўду пачуюць і ціхую.
623
Спявай толькі тады, калі ўпэўнішся, што паблізу няма чалавека, які плача.
624
Калі будзеш доўга маніць, дык у канцы нехта аб табе скажа праўду.
625
Чым большая тэрытарыяльная адлегласць, тым большая духоўная блізкасць.
626
Калі б беларусы спалохаліся ўласнай слабасці, не мусілі б баяцца чужой сілы.
627
Інтэлектуальна больш мы абавязаны тым, з кім адразу не згаджаемся, чым тым, з кім адразу атаясамліваемся.

**Алесь Барскі**

### МУЗЕЙНЫ ФОНД

Грамадскі камітэт пабудовы Музея помнікаў беларускай культуры і рэвалюцыйнага руху праводзіць збор грошай на пабудову музея. Ахвяраванні трэба дасылаць на такі адрас:
Bank Spółdzielczy w Hajnówce Nr Konta 905217-1922-132-3.
У замежнай валюце: Narodowy Bank Polski i Oddział w Białymstoku nr rachunku walutowego 5021-24325-152-6787, nr rachunku walutowego w rublach 5021-24325-151-6201.
Жыхары БССР грашовыя ахвяраванні могуць уплачваць на рахунак 141713 у Рэспубліканскім жылсацбанку горада Мінска.

Спіс чарговых ахвяравальнікаў.

Добраахвотныя ўзносы жыхароў вёскі Кошкі, гміна Орля:

3007. Ольга Бішчук — 100 зл.
3008. Ніна Бурачэўская — 100 зл.
3009. Данута Плуг — 100 зл.
3010. Васіль Лаўранюк — 100 зл.
3011. Мікалай Загон — 1000 зл.
3012. Антаніна Бурак — 500 зл.
3013. Міхал Загон — 200 зл.
3014. Пётр Загон — 500 зл.
3015. Марыя Пяст — 200 зл.
3016. Ольга Копец — 200 зл.
3017. Клаўдзія Лабасюк — 100 зл.
3018. Лідзія Пяст — 500 зл.
3019. Ян Камар — 400 зл.
3020. Аляксандр Себятынскі — 500 зл.
3021. Ян Мойсік — 1000 зл.
3022. Рыгор Вярэмчук — 500 зл.
3023. Лідзія Слакатовіч — 300 зл.
3024. Ян Бурак с. Яна — 500 зл.
3025. Валянціна Сліўко — 200 зл.
3026. Яўген Сушч — 1500 зл.
3027. Ян Сліўко — 200 зл.
3028. Аляксей Пяст — 200 зл.
3029. Ольга Плуг — 200 зл.
3030. Міхал Бурак — 2000 зл.
3031. Лявон Фёнік — 500 зл.
3032. Ян Дземянюк — 500 зл.
3033. Фёдар Краўчук — 500 зл.
3034. Галіна Бішчук — 500 зл.
3035. Ян Копец — 500 зл.
3036. Сцяпан Пяст — 500 зл.
3037. Марыя Жылюк — 500 зл.
3038. Марыя Плішка — 500 зл.
3039. Марыя Бурак — 2000 зл.
3040. Аляксандр Марціновіч — 4000 зл.

Дзякуем.

Наш адрас: Społeczny Komitet Budowy Muzeum Zabytków Kultury Białoruskiej i Ruchu Rewolucyjnego. 17-200 Hajnówka, ul. Wyzwolenia 6. Тэлефон 28-89.

### НА МОРЫ

Карабель пацярпеў крушэнне. Адзін з пасажыраў апошнімі сіламі даплыў да бязлюднага вострава. На яго здзіўленне прывітала яго на беразе жонка:
— Нарэшце знайшоўся! Дзе ж ты зноў бадзяўся? Карабель затануў жа ўчора...

### НА СУДНЕ

Капітан спалучаецца з вадалазам, які спусціўся з судна і працуе на дне возера, ды крычыць:
— Зараз жа вяртайся на палубу!
— Што здарылася? — пытаецца вадалаз.
— Судна тоне! — адказвае капітан.


# Ніва

Орган Галоўнага праўлення Беларускага грамадска-культурнага таварыства. Рэдагуе калектыў: Валянціна Жэшка (карэктар), Віталій Луба (галоўны рэдактар), Міраслава Лукша, Ян Максімюк, Яўгенія Палоцкая (кіраўнік канцылярыі), Уладзіслаў Петрук (мастак), Марыя Федарук (машыністка), Ала Чачуга (адказны сакратар), Яніна Чэрнякевіч (рэдактар „Зоркі“).

„Niwa“
ul. Wesołowskiego 1
15-950 Białystok, skr. poczt. 149
tel. 232-41, 210-33.

Wydawca: Białostockie Wydawnictwo Prasowe 15-950 Białystok, ul. Wesołowskiego 1.

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Warunki prenumeraty pocztowej na 1990 r.:

1. Prenumeratę pocztową (z dostawą do domu) zamawiać mogą mieszkańcy wsi, osad oraz miasteczek w których nie ma Oddziałów RSW a także osoby niepełnosprawne, bez względu na miejsce zamieszkania.
2. Wpłaty na tę prenumeratę przyjmują urzędy pocztowe oraz doręczyciele.
3. Podstawowym okresem przyjmowania prenumeraty pocztowej jest kwartał.
4. Termin wpłat na prenumeratę pocztową na II kwartał 1990 r. upływa 20 lutego 1990 r. włącznie.
5. Cena prenumeraty kwartalnej wynosi 7.800 + 1.300 zł za doręczanie.
6. Cena prenumeraty z wysyłką za granicę jest większa o 100% i przyjmowana jest tylko na okresy kwartalne. Wpłaty przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch“ Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw Warszawa, ul. Towarowa 28 Nr. konta PBK XIII Oddział Warszawa 370044-1195-139-11.

Mieszkańcy miast mogą zamawiać prenumeratę indywidualną poprzez Oddziały RSW w następujących formach:
- prenumerata instytucjonalna (w zakładach pracy).
- rezerwacja w tzw. teczkach (we wszystkich kioskach).
- prenumerata własna RSW (w wytypowanych kioskach).

Zam. 83/90. Nakład 4.200. U-3.